Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 8 ліпня 1933 г.

№14.

Год 1-шы

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.

Прыймо інтэрэсантаў:

у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.

у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:

За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.

за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;

за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

## У блудным коле тактычных абмылак.

Як ведама ўсім, у Заходняй Беларусі адносіны і каталіцкага касьцёлу, і праваслаўнае царквы да беларускага народу — вельмі для яго крыўдныя, калі не сказаць—проста варожыя.

Каталіцкі касьцёл у Заходняй Беларусі мае чыста польскі нацыянальны характар, ня гледзячы на яго „рымскі" назоў. Беларуская мова дапускаецца тут толькі ў зусім выключных выпадках — і то не як права каталікоў-беларусаў на родную мову ў рэлігійным жыцьці, а як спосаб прываблівання праваслаўных беларусаў да вуніі. — Што-ж датычыцца праваслаўнае царквы, у якой верхаводзяць расейцы з старой даваеннай закваскай, дык і тут таксама пануе імкненьне захаваць той маскоўскі характар, што быў прышчэплены ёй расейскім урадам, і служыць і далей „русскому дѣлу въ Сѣверо-Западномъ Краѣ".

Ясна, што і ў межах каталіцкага касьцёлу, і ў межах праваслаўнае царквы беларусы прымушаны вясьці нясупынна барацьбу за свае права на родную мову, права на тое, каб у імя рэлігіі не вялася акцыя дэнацыяналізацыі беларускага насяленьня—ці то на карысьць польшчыны, ці на карысьць маскоўшчыны. Але царква, касьцёл — гэта зусім асаблівыя арганізацыі, і гэтая іх асаблівасьць вымагае асаблівае тактыкі ў даходжаньні беларусамі свайго прыраджонага права.

Касьцёл і царква маюць у грэцкай мове адзін супольны назоў: „экклезіа", што значыць зграмаджэньне верных. Згэтуль выплывае ад найдаўнейшых часоў прынцып сабornасьці, асабліва крэпка перахаваны ў праваслаўнай царкве — прынамся ў тэорыі (— на практыцы ў Расеі кіраваў царквой не сам народ, а—царскі ўрад). Паводле тэй жа тэорыі ніякая вонкавая сіла, ніякая ўлада ня можа ўмешывацца ў рэлігійнае жыцьцё гэнага зграмаджэньня верных, а толькі яно само можа і павінна вырашаць усе свае справы. Касьцёл, царква—гэта свайго роду камуна, у якой сяброў злучае супольнае веравызнаньне.

З гэтага вывад зусім ясны: барацьба за беларусізацыю касьцёлу і царквы на Беларусі мусіць быць вядзена ў лоне кожнага з гэтых зграмаджэньняў верных асобна—сіламі самых верных таго і другога вызнаньня. Самыя найлепшыя імкненьні беларускіх партыяў і арганізацыяў, якія стаяць па-за межамі царквы і касьцёлу, ды маюць неаднаглітычны паводле веравызнаньня характар, ніколі не дасягнуць сваей мэты, калі ў царкве і касьцёле ня створацца чыста каталіцкія і чыста праваслаўныя конфэсіянальныя арганізацыі, не падлягаючыя волі і кіраўніцтву чужаверцаў.

На-жаль, гэтага ніяк ня могуць зразумець беларускія хадэкі з сваім павадыром—кс. Станкевічам, які—дзеля пэўных палітычных мяркаваньняў—зьліквідаваў сярод беларусаў самастойны каталіцкі рух, увёўшы ў склад хадэцыі праваслаўных. Можа з пункту гледжаньня інтарэсаў вуніі ўвядзеньне ў рады чыста каталіцкае арганізацыі—праваслаўных было крокам пажаданым. Але гэта пазбавіла беларускі каталіцкі рух самастойнага прадстаўніцтва, і каталіцкія касьцельныя ўлады, паззываючыся на фармальныя прычыны, адмаўляюцца даваць які-колечы послух і хадэцыі, і так-званаму „Нацыянальнаму Камітэту", каторы зьяўляецца экспозытурай тэй-жа хадэцыі. Ведама, выстаўляньне за прычыну такога становішча касьцельных уладаў факту прысутнасьці ў складзе хадэцыі і яе Нацкому праваслаўных — гэта толькі лоўкі спосаб ухіліцца ад спаўненьня слушных дамаганьняў названых арганізацыяў у галіне беларусізацыі каталіцкага касьцёлу ў Зах. Беларусі. Але фармальную падставу дзеля гэтага даюць польскім нацыяналістам у сутаннах як-раз гэныя беларускія арганізацыі...

Тое-ж цяпер робіцца і з акцыяй, скіраванай да зьбеларушчаньня праваслаўнае царквы. І ў гэтай справе выступае з зусім слушнымі дамаганьнямі той-жа хадэцкі каталіцка - вуніяцка - праваслаўны Нацком і... з тым-жа ад'емным рэзультатам. Больш таго: арганізацыя, якая выразна стаўляе сваей мэтай царкоўную вунію, зварачаючыся ў

апошнім сваім мэморыяле да мітрапаліта Дзяніса (30. V. 1933), у сваіх матывах гаворыць аб інтарэсах праваслаўнае царквы, якой... „пагражае вунія“, робленая тым жа Нацкомам і хадэцыяй! Ці-ж не даюць аўтары мэморыялу ў рукі маскоўскае іерархіі „аўтакефальнае“ царквы аружжа проці самых сябе і проці ўсяе царкоўна беларускае справы?

Каб быць добрым палітыкам і кіраваць якой-колечы акцыяй палітычнага характару, мала добрае волі і зычнага голасу: першае і галоўнае тут—мець палітычны розум. Калі ў каго няма гэтага розуму, дык праступкам зьяўляецца „гульня ў палітыку“: ад яе больш шкоды, чым карысьці. І мы былі толькі-што сьведкамі таго, як шчыры царкоўнік і абаронца саборнасьці і самастойнасьці праваслаўнае царквы, быў сэнатар В. Багдановіч, падпісаў успомнены ўжо мэморыял хадэцкага Нацкому, трэбуючы, каб аўтакефальная праваслаўная царква ў Польшчы прыслухівалася да голасу пазацаркоўнае і інаверчае арганізацыі, хоць і зусім слушнага і справядлівага, але з царкоўнага гледзішча неабавязываючага.

З гэтага запраўды-ж блуднага кола тактычных абмылак пара ўжо выйсьці. Пара вярнуцца на шлях двух зусім самастойных— касьцельнае і царкоўнае — раўналежных акцыяў за правы беларускае мовы ў рэлігійным жыцьці нашага народу, акцыяў ня звонку, а знутра ў касьцёле і царкве. Іншы шлях, як паказала практыка, вядзе на бездарожжа.

Больш за нас палітычна дасьпелае ўкраінскае грамадзянства і ідзе — дый з вялікім пасьпехам—гэтым адзіным рацыянальным шляхам: палітычныя дзеячы на Украінскіх землях не абмежываюцца ў царкоўнай справе пісаньнем мэморыялаў і вельмі слушных рэзалюцыяў, складаных царкоўнымі ўладамі „пад сукно“, а арганізуюць масы веруючых да змаганьня за родную мову ў царкве, і тамака змаганьне нацыяналізацыі царквы ідзе зьнізу. Там сялянская маса ўмее прымусіць сваіх сьвяшчэньнікаў да ўжываньня украінскае мовы ў царкве, не затрымліваючыся навет перад арганізаваным байкотам безнадзейна апорных. Нашыя „палітыкі“ дагэтуль да такое акцыі не дадумаліся. Няхай-жа на сьлядуюць хоць чужы прыклад.

# Слушная і пільная справа.

„Кур. Віленьскі“ парушыў справу, якая запраўды-ж павінна быць вырашана чым хутчэй „у імя соцыяльнай справядлівасьці і добра панятага інтарэсу дзяржавы“.

Каротка кажучы, справа ў тым, што шмат дробных зямляўласьнікаў (сялян) набрала ў часе апошняга неўраджаю (1929 г.) пазычак на насеньне з фондаў Дзяржаўнага Рольнага Банку—праз розныя блізкія да сялянства крэдытовыя ўстановы на мяйсцох. Цяперашні крызіс, зьбіўшы страшэнна цэны зямляробскіх прадуктаў, ператварыў гэтае бясспрэчнае дабрадзейства Рольнага Банку ў бяду, якая вісіць на шыі даўжнікоў Банку, як пятля пад шыбяніцай. Запраўды-ж — у 1929 г. браўшаму пазыку селяніну пуд аўсу, прыкладам, лічыўся — паводле існаваўшых тады цэнаў — 8 зл. 20 гр., ячменю — 9 зл., гароху — 10 зл. 70 гр. і т. д. Калі далічыць да гэтае асноўнае сумы доўгу наросшыя на яе за тры гады працэнты, дык за пазычаны тады пуд аўсу селянін цяпер павінен сплаціць 11 зл. 15 гр. Але ж цяпер цана пуда аўсу на рынку — толькі 1 зл. 60 гр. Гэта значыць, што за кожны пуд аўсу, пазычаны ў банку тады, зямляроб павінен сплаціць банку цяпер аж 7 пудоў.

Дзіва, што даўжнікі ня могуць сплачываць доўгу дый ня робяць гэтага! Не памагаюць ані пагрозы, ані палёгкі, ані „прыкладныя“ спагоны пазыкаў „на страх усей ваколіцы“, якія дарэшты руйнуюць падбітыя крызісам гаспадаркі.

Запраўды-ж можна напомніць дзяржаве, так жорстка распраўляючайся з сваімі даўжнікамі, аб тым, як яна сама дый навет найбагацейшыя калегі яе, як Англія і Францыя, самі ня сплачываюць сваіх пазыкаў Амэрыцы, пазываючыся на тое, што ня могуць зрабіць гэтага дзеля крызісу, дый трэбуюць скасаваньня іх... Таксама і тут: адзіным магчымым выхадам з палажэньня было-б поўнае скасаваньне гэтых пазыкаў, як гэта ні цяжка для Дзяржаўнага Банку.

Здаецца, таксама глядзіць на справу і аўтар артыкулу ў „Кур. Віл.“

Найбольш, чаго можа справядліва трэбаваць Банк, гэта — сплата доўгу натурай: пуд за пуд, кілягрэм за кілягрэм, калі ўжо ніяк ня можна дараваць пазыкі пацярпеўшым ад стыхійнае бяды неўраджаю і згалелўшым дарэшты ад крызісу зямляробам.

# Рада для гаспадароў.

## Курыны шкоднік.

Курыным шкоднікам, як гэта ні дзіўна, зьяўляюцца бабкі. Бабкі часта маюць у сабе асаблівага паразыта і, калі зьесьць курыца гэткую бабку, то гэны паразыт пападае пасьля ў яйцавод і выклікае запаленьне. У выніку гэтага куры часта нясуць „вылўкі“ (яйкі без шкарлупы), а могуць наўт і цалком згінуць.

Бабкі першы раз зьяўляюцца толькі ў траўні і чэрвені,—другі раз—у верасьні.

Каб куры менш хварэлі на запаленьне яйцаводу, дык трэба ў гэтыя месяцы не выпушчаць курэй на панадворак, пакуль ня зьнійдзе раса, і пасьля дажджу. Звычайна ў гэты час бабкі ня лётаюць, бо маюць мокрыя крыльцы, дзякуючы чаму куры найболей іх і спажываюць.

Гэтая хвароба курэй асабліва пашырана ў вільготных мяйсцовасьцях. К. З.

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Бібліятэка Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча ў Вільні** папоўнілася даўно перададным ей кнігазборам былае бібліятэкі-чытальні „Знаніе“, які дагэтуль быў у карыстаньні Беларускае Гімназіі. Кнігі перанесены ў памяшчэньне Музэю і ад восені імі можна будзе карыстацца намейсцы кожнаму, хто працуе навукова.

**Пісьмо матурыстаў.** Рэдакцыя „Роднага Краю“ атрымала наступнае пісьмо ад матурыстаў Беларускае Філіі Дзяржаўнае Гімназіі ім. Ю. Словацкага ў Вільні:

*Высокапаважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Ветліва просім Вас зьмясьціць у Вашай паважанай часопісі пісьмо наступн. зьместу:

„У выніку бязупынных напасьцяў „Беларускае Крыніцы“, якія зьяўляюцца вельмі крыўднымі для Беларускае Гімназіі ў Вільні і ўсяго вучыцельскага пэрсоналю з п. Дырэктарам Астроўскім на чале, мы, матурысты, пачуваемся да абавязку спраставаньня нясумленных закідаў успомненай часопісі, г. зн. „Беларускай Крыніцы“. Катэгарычна сьцьвярджаем, што няпраўдай ёсьць, быццам сучасная Віленская Беларуская Гімназія не адпавядала выхаваўчым мэтам беларускае моладзі і сталася для беларусаў чужой.

Але праўдай ёсьць, што і пасьля пераўтварэньня прыватнае Віл. Белар. Гімназіі ў Дзяржаўную ўвесь вучыцельскі пэрсонэль, які амаль што ў поўным складзе астаўся на сваім становішчы, надалей працаваў над разьвіцьцем нашага беларускага нацыянальнага пачуцьця, за што на гэтым мейсцы складаем яму шчырую падзяку. Зазначаем, што забіраем голас у гэтай справе толькі цяпер — ужо пасьля атрыманьня матуры, бо ранейшае выступленьне магло-б быць няслушна тлумачана націскам школьных уладаў.

З глыбокай пашанай

Ад імя матурыстаў 1932/33 шк. г.
Беларускае Філіі Дзярж. Гімназіі
імя Ю. Словацкага ў Вільні

*Вера Шавелянка.*
*Аўген Насекайла.*

**Увага:** Калега Канцэлярчык Міхась, як няпрысутны, ня прыймаў удзелу ў нарадзе і рэдагаваньні гэтага пісьма.

**Новая праява беларускае эсэраўшчыны ў Вільні.** Ужо некалькі месяцаў таму пачаў выходзіць у Вільні орган г. зв. маладой беларускай соцыялістычнай думкі пад назовам „Золак“, рэдагаваны М. Чарнецкім. Орган гэты па-за „палітычнай“ фразэолёгіяй выявіў таксама і непашану да праяваў беларускай навуковай працы, — дык ня дзіва, што абмежыўся выхадам аднаго толькі нумару і... заснуў.

## На правінцыі.

**Матуральныя экзамены ў Беларускай Філіі Навагрaдзкай Дзяржаўнай Гімназіі** адбыліся — пісьменныя 22—27 траўня, а вусныя 23 і 24 чэрвеня г. г. У склад Экзаменацыйнае Камісіі ўваходзілі настаўнікі свае гімназіі, за вынятакам экзамэнатара з матэматыкі і фізыкі, на якога, з прычыны сьмерці с. п. А. Мілова,

---

# Ядвігін Ш.

**(Антон Лявіцкі).**

*Жыцьцё і літэратурная творчасьць.*

Даканчэньне.

Разгледжаныя вышэй творы маюць рэалістычны характар. Да сур'ёзных твораў Ядв. Ш. належаць яшчэ апавяданьні алегарычныя, як „Павук“, „Сіло“, „Гадунец“, „Дуб дзядуля“, „Пратэст“, „Рабы“, „Падласенькі“, „Вясельле“ і іншыя. Некаторыя з іх, як „Павук“, „Сіло“, „Пратэст“ і інш., паўсталі пад уплывам рэвалюцыі 1905-6 г. г.: у іх прабіваюцца **навет соцыялістычныя ноты**, як напр. у „Павуку“. У сетку павука трапіла муха. Яна выказывае грознае memento павуку: калі налятуць тысячы мух, дык ня толькі сетка, але й павук не ўцалеюць. Павук ня сьпіць усю ноч і стаўляе новых дзесяць сетак. Тут выразная алюзія да капіталістычнага ладу. Да творчасьці Ядв. Ш. можна датасаваць у поўным значэньні пагляд, што літэратура ёсьць люстра эпохі. Творчы геній Ядв. Ш., як чулая мэмбрана, вычувае зьмены, якія адбываюцца ў грамадзянстве. І ў гэтым яшчэ адна цэннасьць твораў Ядв. Ш.

Цікава, **што Ядвігіну Ш. нацыянальна-незалежніцкі матыў ня свомы.** Ен прабіваецца дзе не дзе, але ён — слабы. М. Пятуховіч, інтэрпрэтуючы алегарычнае апавяданьне „Гадунец“, знаходзіць там якраз нацыянальны зьмест. Інтэрпрэтацыю М. Пятуховіча трэба лічыць трафнай. Але цікава тое, што нацыянальны матыў у творах Ядв. Ш. праяўляецца ў форме алегарычнай. Літэратурная форма, у якой ён выразна ці часам нявыразна выяўляецца (і то ў двух толькі выпадках), сьведчыць, што матыў гэты ў Ядв. Ш. ня мае глыбейшых падстаў. І тут гэтае зьявішча трэба вытлумачыць духовым дуалізмам Ядв. Ш., яго спэцыфічнай духовасьцю. Ядв. Ш. ў сваіх творах пастолькі нацыянальны, паколькі ён чэрпае тэмы з беларускага жыцьця, беларускае прыроды й народнае поэзіі. „Сам адраджэнец, — кажа М. Пятуховіч, — беларускі пісьменьнік не выяўляе адраджэнскіх матываў, якімі так багата творчасьць яго сучасьні-

Куратарыюм вызначыла настаўніка Беларускае Філіі Гімн. ім. Ю. Словацкага ў Вільні, гр. Б. Кіту, ахвярна і безінтэрэсоўна прыехаўшага ў Навагрудак на экзамены ў родную школу. На пісьменных экзаменах старшынёю быў гр. Я. Цеханоўскі, а на вусных — Дырэктар Польскае Дзяржаўнае Гімназіі ў Навагрудку гр. Я. Банскі. Да экзамену дапушчаны былі ўсе 13 вучняў VIII клясы і апрача таго адзін б. вучань, Янка Цупрык, які на пачатку красавіка г. г. быў узяты ў войска, адлак-жа з дазволу Куратарыюму здаваў звычайную матуру, як вучань. Матуру атрымалі ўсе дапушчаныя да экзаменаў: Марыя Альхоўская, Алёна Валынец, Аляксандра Вярбіцкая, Уладзімір Гацкі, Ліда Дзяковічанка, Янка Курчэйка, Тамара Кур'янішка, Тацяна Лукашык, Міхась Рагуля, Астап Русецкі, Янка Сазановіч Уладзімер Сўка, Леванід Чатырка і Янка Цупрык.

## У Латвіі.

**Лічба матурыстаў у Рыжскай Прыватнай Беларускай Вячэрняй Гімназіі**, як мы даведываемся, у сёлетнім — першым — выпуску аказалася зусім такой самай, як і ў беларускай гімназіі (філіі дзярж. гімназіі ім. Ю. Словацкага) у Вільні. Да экзаменаў было дапушчана 14 абітур'ентаў, матуру атрымалі 11.

**Рыначныя цэны ў Вільні.** 23 VII. Жыта гурт. 4 зл., дэт. 4 зл. 30 гр. Ячмень гурт. 4 зл., дэт. 4 зл. 30 гр. Авес гурт. 2 зл. 30 гр. дэт. 2 зл. 50 гр. Пшаніца гурт. 5 зл., дэт. 5 зл. 60 гр. Бульба стар. кілягр. 0,08 гр., дэт. 0,10 гр. Саланіна 1 зл. 80 гр. — 2 зл. Шмалец 2 зл.—2 зл. 40 гр. Масла прас. 2 зл. 20 гр.—2 зл. 40 гр., масла гаспадар. 1 зл. 90 гр.—2 зл. 20 гр. Яйкі 50-60 гр.—60-70 гр.

# Палітычная хроніка.

**Сьвята мора ў Польшчы.** 29 чэрвеня ў Варшаве, а таксама па ўсей Польшчы, адбыліся ўрачыстасьці „сьвята мора", маючыя ўсьведаміць шырокія масы насяленьня Польшчы аб значэньні ўласнага „выхаду ў мора" для вольнага і незалежнага—першым чынам эканамічнага, а далей і палітычнага — разьвіцьця дзяржавы.

**Сусьветная гаспадарчая канфэрэнцыя.** Міжнародавая гаспадарчая канфэрэнцыя ў Лёндане, на якую ва ўсім сьвеце ўскладаліся такія вялікія надзеі, пачынае трашчэць па ўсім швам. За 3 з гакам тыдні канфэрэнцыя ня толькі не зрабіла блізу нічога, але галоўнае пачатнае яе заданьне, без якога ня можна кроку зрабіць дзеля барацьбы з крызісам—справа упарадкаваньня валюты — пагражае астацца нявырашым, зрабіцца тым дынамітам, які можа ўзарваць усю канфэрэнцыю ў паветра.

Мы ўжо высьветлялі крыху гэтую справу.

Справа гаспадарчая ў міжнародавым маштабе—гэта ёсьць галоўным чынам справа экспортнай (вывазной) прадукцыі для паасобных краёў дый справа гандлёвага абмену паміж імі. І тутака на першы плян высоўваецца справа добрае, сталае манэты, датасаванае да абодвух гэтых гаспадарчых заданьняў у кожным краю, справа сталае, забясьпечанае агульнай і супольнай вартасьцяй (звычайна золатам) валюты. Бо-ж — бяз гэтай агульнай і супольнай сталай меры ня можа быць ані абрахунку коштаў прадукцыі, ані правільнага гандлёвага абмену. І толькі на другім мейсцы стаіць справа аблягчэньня гэтага гандлёвага абмену, справа шырэйшага

---

каў нашаніўцаў; ён, відаць, лічыў справу беларускага культурна-нацыянальнага адраджэньня настолькі бясспрэчнай, што, па яго думках, ня варта было ўгрунтоўваць яе ў поэзіі; магчыма, што ён проста не хацеў паўтарацца ў дадзеных адносінах, шукаючы больш самастойных тэм, пераважна псыхолёгічнага і агульна-людзкага характару". Нацыянальны элемэнт знаходзім яшчэ ў „Лістох з дарогі", пісаных Ядв. Ш. ў 1910 г. У некаторых мяйсцох у іх Ядв. Ш. выяўляе высокую, гарачую любоў да Беларусі й беларускага народу. У „Лістох" можа Ядв. Ш. найлягчэй выявіць сваё нацыянальнае пачуцьцё. У гэтых запемках з падарожжы Ядв. Ш. і аграном, і соцыёлёг, і гісторык, і поэта, і турыст, і аўтобіограф, і ўрэшце—патрыёт.

Ня можна моўчкі абмінуць незакончаную повесьць Ядв. Ш. „Золата". Сюжэт яе наступны. Мікола Стрончык, бондар, займаючыся паціхеньку зладзействам, мае дачку Зосю. Зося закахана ў Алёксе Гуронку, вясковым хлапцу. Але бацькі яго ня хочуць і слухаць аб жаністве яго з Зосяй. Яны сватаюць яму Прузыну, дачку багатых сялян. Прыпадак зьмяняе ўсё. Адноўчы спыняецца на-нач у Стрончыка Васіль Дубінскі, малады хлапец, сын зьбяднеўшага шляхціца. Васіль шукаў заробку ў месьце, а цяпер маніцца выехаць да брата Адама ў Амэрыку, каб там зарабіць грошы, а пасьля купіць на бацькаўшчыне свой кавалак зямлі. Васіль спадабаўся Стрончыку; яны часта сядзяць у карчмара Лейбы, а Стрончык аматар выпіць. Васіль застаецца надаўжэй і закохіваецца ў Зосі. Але ён ведае аб Алёксе й Прузыне. На адным вясельлі, на якім былі Васіль і Зося, здарыўся выпадак: Прузына нібы-то п'яная топіцца ў студні, якую сумысьля адбіў Васіль. Алёксу, як западозранага ў гэтым, арыштоўваюць. Зося выходзіць замуж за Васіля, але не забываецца пра Алёксу, які ўжо выехаў у Амэрыку й пазнаёміўся з Адамам, братам Васіля. Васіль і Зося доўга жывуць згодна. Але дзеці, якія ў іх родзяцца, усьцяж паміраюць. Нарэшце нарадзілася двое: хлопчык і дзяў-

расчыненьня брамаў у тых мытных мурох, якімі той ці іншы край абараняе ўнутраную прадукцыю ад канкурэнцыі з боку замежнае прадукцыі, рэгулюе гандлёвы балянс (грашовы стасунак між увозам і вывазам), часта, нажаль,—з яўнай шкодай для агульнага міжнароднага гандлёвага абмену.

Так і заглядаюцца на гэтую чарговасьць заданьняў у агульнай задачы аздараўленьня сусьветнай гаспадаркі і барацьбы з крызісам блізу ўсе краі—учасьнікі канфэрэнцыі. Усе, апроч адной Амэрыкі.

Амэрыка сьведама адмаўляецца ад стабілізацыі даляра, каб не спыніць пачаўшагася ўздыму цэнаў у краі. Але гэтым самым яна спыняе ўсю працу канфэрэнцыі, робячы яе непатрэбнай дый забіваючы і самую гэтую канфэрэнцыю наагул. У сваім „гаспадарчым нацыяналізьме" Амэрыка ад канфэрэнцыі аднак-жа трэбуе, каб яна на першы плян паставіла не справу ўрэгуляваньня валютаў, але справу спыненьня мытных муроў і бар'ераў, каб даць шырэйшыя рынкі для амэрыканскіх тавараў. Бо-ж таньнейшая валюта (даляр) дае Амэрыцы новыя магчымасьці канкураваць на сусьветным рынку. Усялякія мытныя перашкоды страшэнна яе абураюць. У такім палажэньні апынулася, дзякуючы Амэрыцы, праца канфэрэнцыі.

Таму нічога дзіўнага, што на канфэрэнцыі стварыўся як быццам супольны фронт усіх дзяржаваў проці адной Амэрыкі. Пяць дзяржаваў, маючых сталую залатую валюту, з Францыяй на чале (Італія, Бэльгія, Галяндыя і Швайцарыя) падалі ў прэзыдыюм канфэрэнцыі дэклярацыю, у якой рашуча заявілі, што яны лічаць стабілізацыю валютаў першым заданьнем канфэрэнцыі, што будуць трымаць за ўсялякую цану сучасны ровень сваіх валютаў, дый што ўсё гэта яны ставяць прынцыповым варункам далейшай карыснай працы канфэрэнцыі... Да гэтай дэклярацыі далучыліся ўжо быццам і ўсе іншыя дэлегацыі.

Апошнія весткі якраз кажуць, што кіраўнікі канфэрэнцыі пастанавілі адлажыць яе аж да кастрычніка.

**Новы адклад разбраенчае канфэрэнцыі.** Блізу аднагалосна так зван. генэральная камісія канфэрэнцыі ў справе разбраеньня пастанавіла прыпыніць сваю працу аж на 3 з паловай месяцы. Адзін толькі дэлегат Нямеччыны востра пратэставаў проці такога адкладу, заяўляючы, што гэтага „ніколі не зразумеюць народы, якія чакаюць з нецярплівасьцю вынікаў канфэрэнцыі", дый — награжаючы „цяжкімі вынікамі" такое пастановы. Праўда, нямецкаму дэлегату даў вострую „адправу" дэлегат Францыі, заявіўшы, што „запраўдная адказнасьць за гэты перарыў спадае не на тыя ўрады, якія змушаны былі прыняць гэткую пастанову, але на тыя ўрады, паступкі якіх пярэчаць іхнім словам"... Ясна намякаў ён на Нямеччыну. Але, як бы там ні было, такая палючая справа, як справа недапушчэньня да новае вайны дый аблягчэньня народам военна-падатковых цяжараў, а гэтым самым—і барацьбы з крызісам, адкладзена без зразумелае падставы. Ясна адно: дзяржавы ня хочуць агульнага разбраеньня, а гэтым пхаюць Нямеччыну на тайныя збраеньні, якія няўхільна давядуць да вайны. Адклад — яўны доказ таго, што канфэрэнцыя зайшла ў тупік.

**Адкладзена і падпісаньне „пакту 4-х".** Падпісаны тымчасова так званы „Пакт 4-х", ці „саюз" чатырох вялікіх дзяржаваў Эўропы (Англіі, Італіі, Нямеччыны і Францыі) мае афіцыяльнай мэтай паразуменьне ў справе аховы эўрапейскага міру. Але, як ведама, у гэтую шырокую формулу розныя ся-

---

чынка, якія выжылі. Дзяўчынку прыпадкова назвалі Прузынай. Гэта забівае аканчальна Васіля, які мучыўся ўвесь час ад утапленьня Прузыны, і ён сам цяпер кідаецца ў студню Зося жыве з бацькам ізноў сама. Хлопчыка забірае брат Васіля ў Амэрыку, а там жыве якраз Алёкса. На гэтым повесьць абрываецца. Можна дагадацца, што Прузына, труп якое ляжыць у лазьні, як гэта прадстаўлена на пачатку повесьці, ёсьць дачка Зосі й Васіля, якая пэўне нешта перажыла й здурэла. Такім чынам — тут псыхолёгічны матыў — успакайваньне пэўных псыхічных нахілаў (бо Зося і Васіль маюць нейкія благія рысы ў сваіх натурах!). Акцыя ў повесьці разьвіваецца вельмі хутка й проста просіцца перанесьці яе на фільмовую йстужку. Прадстаўлены ў ёй умела вясковыя тыпы й пераходныя, з'урбанізаваныя, як Васіль дый сам Мікола Стрончык.

Ядвігін Ш., як у іншых творах, тут выяўляе свой асаблівы спосаб маляваньня постацяў. Партрэтызм Ядв. Ш мае штрыхавыя асаблівасьці: ён штрыхамі вызначае пэўнае мейсца асобы, мала рысуючы яе ў дробязях. Апрача таго, з партрэтаў гэтых асобаў мы можам вычытаць і некаторыя іх духовыя адзнакі. Вось прыклады гэтых партрэтных штрыхоў, узятыя з повесьці „Золата":

„І цяпер ляжала Прузына на палку ў лазьні ў рваных і рэзаных лахманах. Ляжала выпраставаная, з закінутай на галаву левай рукой, пальцы каторай моцна ўпляліся ў спутаныя, пакудлачаныя сівыя валасы; правая рука вісела, утыкаючыся пальцамі ў брудную зямлю. Твар нябожчыцы быў шэры, тонкі, доўгі нос завастрыўся, выцягнуўся і ажно загнуўся ўніз, быццам глюга гругана; ражкі заціснутых тонкіх вуснаў, як-бы ў злосьці вялікай, таксама спушчаліся ўніз, а правае, ня зусім заплюснутае вока, быццам украдкам, спаглядала з-пад павек, як бы дагледзіць хацела, што тут сабраўшыся народ будзе каля яе—нябожчыцы—рабіць. На адкрытых, яшчэ больш, чым самы твар, грудзёх, на чорным выплавеўшым шнурочку віселі мэдалікі, крыжыкі і

бры пакту ўкладаюць розны сэнс. Францыя, прыкладам, даводзіць, што мір можа быць захаваны і ахаваны толькі шляхам „точнага выкананьня існуючых нязьменных трактатаў“, а перагляд іх няўхільна выкліча вайну; Нямеччына, наадварот, кажа, што адзіны шлях да гэтае мэты — іменна перагляд трактатаў, а вайну выкліча якраз захаваньне іх бяз зьмены. Доўга творцы пакту трудзіліся над тым, каб апрацаваць формулу, якая-б зьмяшчала ў сабе абедзьве гэтыя ўзаемна супярэчныя думкі.

Аж урэшце знайшлі: ведама-ж, папера ўсё сьцерпіць.. Аставалася толькі ратыфікацыя пакту. Але Францыя падала раптам дадатковы мэморыял, у якім—„у парадку тлумачэньня пакту“—заявіла, што магчымасьць перагляду трактатаў разумее толькі ў сеньсе тэй процэдуры, якая прадбачана ў статуце Лігі, дый што навет дзеля таго, каб падняць справу, патрэбна была згода ўсіх заінтэрэсаваных дзяржаваў. Ясна, што такое тлумачэньне пакту цалком зьніштажала яго сэнс для дзяржаваў — прыхільнікаў перагляду. Ніякая з „заінтэрэсаваных дзяржаў“, зразумела-ж, ня дасьць сваей згоды на перагляд карыснага для яе трактату.

Адказам на гэты францускі мэморыял зьявілася адмова зацьвярдзіць пакт з боку Нямеччыны, а здаецца і — Італіі, калі ў ім будзе такая засьцярога Францыі. Дык пачнуцца новыя перагаворы, бо — ад думкі аб такім пакце вялікія дзяржавы пэўне-ж не адмовяцца.

**Новае паразуменьне на Усходзе Эўропы.** У Лёндане толькі-што падпісаны новы дагавор, ці конвэнцыя паміж СССР і яго суседзямі: Польшчай, Румыніяй, Турцыяй, Эстоніяй, Латвіяй, Персіяй і Афганістанам. Дагавор датычыць супольна прынятага азначэньня „агрэсора“, ці пачынальніка, віноўцы вайны. Уся эўрапэйская прэса падчырківае вялізарнае значэньне новага дагавору для ўмацаваньня міру на Усходзе Эўропы.

Яшчэ ня высьветлілася, ці ў перагаворах між СССР і Румыніяй вырашана ўжо справа Бэсарабіі; але абедзьве дзяржавы выразна ўзышлі на шлях узаемнага паразуменьня. Апроч таго, адначасна маюць быць падпісаны умовы аб узаемным ненападаньні між СССР і Чэхаславакіяй ды Югаславіяй. А гэта адчыняе шлях і для формальнага прызнаньня СССР абедзьвюма гэтымі дзяржавамі, а далей—і ўсей Малай Антантай.

Гэтыя ўсе важныя падзеі выклікаюць надзвычайную трывогу ў гітлераўскай Нямеччыне, якая выразна траціць свайго вялікага ўсходняга саюзьніка на карысьць яго бліжэйшых суседзяў. Але-ж гэта сам Гітлер з Гугенбэргам кінулі Саветы на такую „здраду“...

**Паляпшэньне польска-савецкіх адносінаў.** У сувязі з яўным паляпшэньнем у апошнія часы агульна-палітычных адносінаў паміж Польшчай і СССР—значна ажывіліся паміж імі і зносіны гандлёвыя. Прыкладам—у траўні з Польшчы ў Саветы прайшло 35 вагонаў жалезных вырабаў, 30 ваг. рознае мануфактуры, каля 2 дзесяткоў вагонаў мэталёвага начыньня і прыладаў і каля 50 ваг. розных іншых тавараў. З СССР у Польшчу за той жа месяц прайшло 23 ваг. скураў, 7 ваг. тытуну, 5 ваг. футраў, некалькі вагонаў дзяцінных забавак і інш. тавараў. Уладзіліся блізу цалком і гранічныя стасункі. У разе якіх выпадкаў мясцовыя нарады хутка ліквідуюць канфлікты. З абодвух бакоў яўна відаць добрая воля да добрасуседзкага сужыцьця.

**Саветы пагадзіліся з Англіяй.** Перагаво-

---

маленькі ключык“.

Або партрэт Зосі:

„Але цяпер — за сталом — калі вочы яго затрымаліся толькі на твары дзяўчыны, сам сабе ня верыў, як ён дагэтуль ня прымеціў і гэтых валасоў чорных, не—нат ня чорных, а быццам сініх, якія гвалтам хвалямі выбіваліся з пад хустачкі, — і гэтага тоненькага, зграбнага носіка, які завострываўся ўверх чутачку-чутачку - дый так толькі, каб даць свабаднейшы доступ для тонкіх, але пухлых чырвоненькіх вуснаў, за каторымі хаваліся, як часнок, густыя дробненькія й беленькія зубочкі. А гэтыя вочы? Як дзьве цёмныя хмары...“

Калі-б Ядв. Ш. скончыў сваю повесьць, то беларуская літэратура атрымала-бы адзін з найцаньнейшых укладаў. Повесьць „Золата“ — гэта заканчэньне лініі разьвіцьця творчасьці Ядвігіна Ш. Аднак, лінія гэтая канчаецца не на гэтай повесьці, а на „Uspaminach“. „Uspaminy“ — сапраўды лебядзіная песьня Ядвігіна Ш. Тут ізноў разьвіваюцца два элемэнты духовасьці Ядвігіна Ш. — пэсымізм і оптымізм. Абвеяны яны высокімі настроямі. У іх прабіваецца, праўда нявыразна, і нацыянальны матыў, які, як мы бачылі, ня свомы Ядвігіну Ш.

Ядвігіна Ш. мы можам назваць „бацькай беларускай прозы“. Беларуская літэратура адраджацца пачала ў вершы, і творчасьць Ядвігіна Ш., як творчасьць у празаічнай форме, — далейшы крок у разьвіцьці беларускае адраджэнскае літэратуры. Але ня толькі ў форме арыгінальны Ядвігін Ш. Ён арыгінальны і ў зьмесьце. Тыпы яго часта агульна-людзкія, дый імі ён асабліва выдзяляецца спасярод нашаніўскіх поэтаў, у большасьці апрацоўваўшых тэмы нацыянальныя. Творчасьць яго мае інтэлігенцкі характар. Стоючы на пераходнай мяжы між стара-шляхоцкімі рамантыкамі і народнікамі, убіраючы ў сябе і новыя плыні, Ядвігін Ш. і ўся яго творчасьць цікавы, як выяўленьне псыхолёгічна-пераходных часоў.

*Хведар Ільяшэвіч.*

Канец.

ры паміж англійскім і савецкім урадамі ў справе ліквідацыі канфлікту, выкліканага ведамым працэсам аб „шкодніцтве англійскіх інжэнераў“, з свайго боку, выклікаўшым забарону ўвозу ў Англію савецкіх тавараў, дайшлі да памысных вынікаў. Засуджаныя англійскія інжэнеры 1 лініяя выпушчаны з вастрогу—у парадку амністыі; з другога боку, адпісаны новы дагавор аб гандлёвым абмене між Англіяй і СССР, навет карысьнейшы для Саветаў, як папярэдні.

**Гітлераўцы пазабівалі ўсе іншыя партыі.** У імкненьні да поўнага адзінаўладзтва гітлераўцы, як і расейскія бальшавікі, паразьбівалі ды пазачынялі ўсе партыі. Распачаўшы—у саюзе з правымі партыямі і цэнтрам — барацьбу з бальшавікамі і з соцыял-дэмакратамі, гітлераўцы, „зьнішчожыўшы марксізм“, зараз жа пачалі зьнішчажэньне і сваіх саюзьнікаў, пачаўшы... ад найбліжэйшых, г. зн.—ад нацыяналістаў і так-зван. „баварскіх людоўцаў“. Сьпярша яны выгналі з пасады віцэ-канцлера і прэм'ера Прусіі фон-Папэна, пасьля змусілі да адстаўкі самога Гугенбэрга і цяпер абвясьцілі нелегальнай і зачынілі іх партыю. Цяпер асталася, апроч гітлераўцаў, у Нямеччыне адна толькі „партыя цэнтру“. Але і тая, прадчуваючы свой лёс, сама пастанавіла распусьціцца.

Газэты пішуць, што з прычыны справы Гугенбэрга, правадыра блізкіх сэрцу прэз. Гіндэнбурга магутных калісьці прускіх фэодалаў-абшарнікаў, у Гіндэнбурга з Гітлерам выйшла страшэнная спрэчка і сварка. Гіндэнбурга, на пратэсты якога Гітлер не зьвярнуў ніякае ўвагі, у выніку страшэннага ўстрасеньня схапіў удар. Ад удару Гіндэнбург крыху паправіўся, але, баючыся ўплыву старога фэльдмаршалка на кахаючую яго армію, яго проста зачынілі, як „пачэснага вязьня“, у яго летняй сядзібе (Нэйдэк), дзе ён, як трэба спадзявацца, хутка й памрэ. Такім чынам Гітлер стаўся адзіным бясспрэчным і непадзельным панам і валадаром Нямеччыны. Зламаўшы Гіндэнбурга і магутных абшарнікаў, Гітлер спрытна рашыў рабіць іх даканца, адабраўшы ў іх зямлю, каб падзяліць яе паміж дробнымі хлебаробамі. Гэтым ён спрытна забівае адразу двух зайцоў: дабівае ворагаў і стварае сабе новую соцыяльна-палітычную апору ў гэтых асадніках. Калі Гітлеру запраўды ўдасцца зьніштожыць у Нямеччыне клясу абшарнікаў, адвечную апору манархізму і найчарнейшае рэакцыі ў Эўропе, дык гэта будзе вялікая яго заслуга. Але бараніцца абшарнікі будуць страшэнна...

**Кандыдаты на нобэлеўскую „прэмію (нагароду) міру“.** Уся нямецкая прэса падхапіла высунёную аднэй з скандынаўскіх газэт кандыдатуру на вызначэньне ў гэтым годзе такзван. „нобэлеўскае прэміі міру“—Гіндэнбургу... Кандыдат, якога з свайго боку высоўвае італьянская прэса: Мусоліні, — меў бы атрымаць нагароду за сваю „працу на карысьць міру“—у будучым годзе. Няма што казаць—добрыя „міратворцы“...

**Перагаворы ў справе Усходня-Кітайскае чыгункі.** Распачатыя японска-савецкія перагаворы ў справе прадажы Японіі савецкіх правоў на Усходня-Кітайскую чыгунку раптам перарваліся. Японія рашуча адкідае савецкія варункі. Дый ясна: пашто Японія мае плаціць грошы, калі фактычна захапіла ўжо ўвесь гэны чыгункавы шлях у свае рукі? Як падчырківае ўся эўрапэйская прэса, захват гэтага жыцьцёва - неабходнага для СССР шляху фактычна аддае ў рукі Японіі і ўвесь вялізарны Прыморскі і Прыамурскі край з сталіцай і портам Уладзівастокам,—дык ліквідацыя савецкіх валадзеньняў і марское базы на ціхім акеане, маючае такое вялізарнае значэньне для ўсяе Сібіры, зьяўляецца толькі пытаньнем кароткага часу.

**Канал паміж Балтыцкім і Белым морам.** Савецкі ўрад можа пахваліцца новым дасягжэньнем: адчынена судаходзтва па толькі што скончанаму будовай каналу, які лучыць мора Балтыцкае з Белым. Новы канал—найвялікшы ў сьвеце, бо-ж мае даўжыні 227 (?) кілям. Два іншыя вялікія каналы сьвету — Суэцкі мае 164 клм., Панамскі—184 кмл. Задзіўляючая хуткасьць, з якой будаваўся канал: 21 месяц.

**Бюджэтны недахоп Амэрыкі.** Бюджэтны год, які скончыўся ў Амэрыцы 30 чэрвеня, зачынены з недахопам у 1 мільярд і 786 мільён. даляраў.

---

# Цікаўныя і карысныя рэчы.

### Францыя паволі вымірае.

Француская газэта „Капітал“ падлічыла, што гады 1933—1937 маюць быць для Францыі найцяжэйшымі дзеля таго, што ў гэтыя гады будзе найменшы прырост насяленьня. А гэта затым, што ў гэтыя гады якраз дойдуць да паўналецьця ды „вясельнага веку“ тыя вельмі нячысьленыя дзеці, якія нарадзіліся ў часе вайны — у 1915-1918 г. г. За 1933-1937 г. г. недахоп нарадзінаў, як падлічае былы міністар Борэль, дойдзе агулам да 1.200 тысячаў, з якой лічбы палову трэба лічыць хлапцоў.

Француская прэса падхапіла гэтыя абліченьні, кідаючы жудасную думку, быццам нямецкія генаралы на чале з ген. Шлейхерам якраз і маюць, зрабіўшы тое-ж падлічэньне, у канцы гэтага крытычнага для францускай арміі 4-лецьця зьдзейсьніць свае пляны „адбудовы“ даваеннай Нямеччыны...

### Спроба наладзіць сувязь з Марсам.

У Англіі стварылася акцыйная супалка, якая распачала будову вялізарнага рэфлектара (лятарні, якая скіроўвае сьвятло снапом у адным кірунку)—сілаю ў 15 мільярдаў сьвечаў. Гэты рэфлектар мае быць пастаўлены на вяршыне аднэй з найвышэйшых гораў у Швайцарыі—з мэтай наладзіць камунікацыю сьветлавымі сыгналамі з плянэ-

тай Марсам, на якой, як думаюць астраномы, могуць жыць істоты, падобныя да людзей.

**Чалавек павінен жыць 100 гадоў.**

Так кажа ведамы англійскі праф. Вільям Ляйн. Дык тое, што чалавек фактычна рэдка дажывае да гэтага „нормальнага веку",—віна яго самога. Праф. Ляйн кажа, што натуралісты даўно ўжо знайшлі як-быццам „закон", паводле якога кожная жывёла жыве нормальна ў 6 разоў больш таго часу, які патрэбны ёй для яе дасьпяваньня (да поўнага ўзросту). Сабака, прыкладам, для поўнага свайго фізычнага разьвіцьця патрабуе 2 гады, дык нормальна жыве каля 12 год. Конь жыве да 30 г., а працэс яго поўнага ўзросту займае 5 гадоў. Слонь, які патрабуе 30 год для свайго поўнага разьвіцьця, мае сярэдні век у 180 г. Чалавек, які поўню сваей фізычнай дасьпеласьці дасягае ў 20 г., павінен жыць сярэднім 100—120 гадоў. А калі цяпер наагул нават 100-летні век зьяўляецца ў нас рэдкасьцяй, дык вінаваты ў гэтым — для адных клясаў залішняя іх праца, забіваючая сілы чалавека змалку, а для іншых —так сама забойчае для іх нормальнага веку залішняе „карыстаньне з прыемнасьцяў жыцьця". „Дык сучасны чалавек, кажа праф. Ляйн, наагул ня ўмірае зазвычай натуральнай сьмерцяй, але атручвае сам сябе сыстэматычна".

## Паштовая скрынка.

Гр. **Пятроўскаму**—Дзярэчын. Ліст вашы з просьвішчамі падпішчыкаў атрыманы. 3 экзэмпляры статуту Т-ва высылаем вам у закрытым пісьме. Дзівімся, чаму не атрымалі: хто гэта так страшэнна „цікавіцца" нашым статутам—па дарозе яго да вас?...

Гр. **Страхэлю Яз.** — в. Гейстуны. Адначасна з выхадам г. № Сакратарыят Т-ва высылае да вас ліст з прапазыцыяй узяць на сябе залажэньне бібліатэкі-чытальні Т. Б. А.

Гр. **Астрамовічу Чэсл.**—в. Новасяды. Сакратарыят Т. Б. А. выслаў да вас ліст у справе залажэньня бібліатэкі-чытальні. Прынцыповы адказ свой прышліце безадкладна.

# ЛІТЭРАТУРНЫ КУТОК.

*Уладзімер Казарэвіч.*

* * *

Прад сабой мы маем
Шлях даўгі, вялікі.
Дык працуйма, брацьця,
Працы ў нас бяз ліку...
Збудуем дом новы
Праўды, шчасьця, сьвету;
Расцьвіце край нашы
Ў сонцы агняцьветным.
Ці-ж мы будзем вечна
Ўзадзе аставацца?...
Рушымся наперад —
Закіпіць хай праца!
Сілы маем многа,
Сільныя ў нас рукі,
Ў нашым сэрцы — вера,
Нам ня страшны мукі.
Збудуем лад новы
У нашай старонцы —
Дык хутчэй до працы,
У паход да сонца...

---

*Гарасім Прамень.*

Ноч настала. У небасхіле
Месяц ясны устае
І на лес імглой закрыты
Сіняцьветы свае льле.
Ціха дрэмлюць недзе хвоі;
Усё спавіта ціхім сном.
Месяц лісьці дрэў прыстроіў
Блескам сумным—серабром.
І здаецца—бязустанку
Я сядзеў-бы й назіраў,
Як у небі паміж зорак
Маляр ночы фарбы клаў.
Але заўтра дзень настане,
Поўны працы і клапот,—
Сонца яснае зноў гляне,
Зноў пальлецца песьня й пот.

---

Дарагі сябра **У. Казарэвіч**! Вершы Вашыя атрымалі. Можа Вам памагчы навучыцца пісаць кірыліцай — выслаць кніжкі? Пішыце. Чакаем больш твораў. З часам надрукуем іншыя Вашыя вершы. Чытайце больш кніжак. Працуйце над сабой. Верш Ваш мы значна паправілі адносна формы.

Сябра **Г. Прамень**! Усе Вашыя вершы атрыманы намі. З часам можа мы (поэты) выдамо зборнік, то зьмесьцім там больш Вашых твораў. Пакрысе будзем друкаваць лепшыя. Пішыце. Жадаем посьпеху. Ваш верш, які друкуем, вельмі сэнтымэнтальны. Мы яго значна перарабілі, каб даць Вам прыклад, як можна інакш уняць тэму. Параўнуйце з ім арыгінал.

Рэдактар: М. СІНЯУСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22